*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 11(67) ◈ 18 сакавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## Мяккі знак — сімвал сапраўднага беларуса?

Стар. 2.

**«Лічу сваім святым абавязкам хоць успомніць пра тых патрыётаў, якія сваімі юначымі сэрцамі засланялі Беларусь ад дзікай бальшавіцкай расправы ўжо ў пасляваенныя 1946 – 1947 гады».**

Стар. 4.



Вось ужо другі месяц працуе ў Менску новая нядзельная школа. Яе арганізатары — гарадскі бацькоўскі камітэт і прадстаўнікі уніяцкай царквы Беларусі.
НА ЗДЫМКУ: дыякан айцец Андрусь.

Фота Міхася ХАМЦА.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯТЫ ЗАКОНЫ «АБ КАШТОЎНЫХ ПАПЕРАХ І ФОНДАВЫХ БІРЖАХ», «АБ ТАВАРНЫХ БІРЖАХ», «АБ АСНОВАХ МЫТНАЙ СЛУЖБЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ» І ІНШ. АБРАНЫ СТАРШЫНЯ ЦЭНТРАЛЬНАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ БЕАРУСІ. Ім стаў доктар юрыдычных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Аляксандр Абрамовіч.

*З ПАЧАТКАМ РАБОТЫ ДЗЕВЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ БЫЛО АБ'ЯЎЛЕНА АБ СТВАРЭННІ НОВАГА ДЭПУТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ «БЕЛАРУСЬ». МЭТАЙ АБ'ЯДНАННЯ З'ЯЎЛЯЕЦЦА НЕ КАНФРАНТАЦЫЯ З ПАРЛАМЕНЦКАЙ АПАЗІЦЫЯЙ, А ЗГУРТАВАННЕ СІЛ, ШТО АДДАЮЦЬ ПЕРАВАГУ ПЕРШ ЗА ЎСЁ ЭКАНАМІЧНЫМ ПЕРАЎТВАРЭННЯМ. У НОВАЕ ФАРМІРАВАННЕ ЎВАЙШЛО КАЛЯ 80 ДЭПУТАТАЎ.*

*З АФІЦЫЯЛЬНЫМ ВІЗІТАМ РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЎ НАМЕСНІК ФЕДЭРАЛЬНАГА КАНЦЛЕРА, МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ГЕРМАНІІ ГАНС-ДЗІТРЫХ ГЕНШЭР. У час візіту было падпісана пагадненне аб аднаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй. У Менску і Берліне ў бліжэйшы час будуць адкрыты пасольствы дзвюх краін.*

НАРАДА МІНІСТРАЎ УНУТРАНЫХ СПРАЎ СНД ПРАВЕДЗЕНА Ў МЕНСКУ. Яе ўдзельнікі абмеркавалі «Пагадненне аб узаемадзеяннях міністэрстваў унутраных спраў краін незалежных дзяржаў у сферы барацьбы са злачыннасцю». Разгледжана пытанне аб заснаванні каардынацыйнага органа — Савета міністраў унутраных спраў незалежных дзяржаў.



Каб убачыць усё сваімі вачамі і затым дапамагчы людзям, пабывалі ў Рэспубліцы Беларусь парламенцкія дэлегаты з Нарвегіі. Журналісты, вучоныя, урачы, якія прадстаўлялі ўсе буйныя медыцынскія арганізацыі гэтай краіны, зрабілі паездку на Гомельшчыну.

НА ЗДЫМКУ: гэта пажылая жанчына — адзіная жыхарка вёскі Барталамееўка, якая ўжо адселена.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА. (БелТА).

## Рэформа моўнай адукацыі

*У «Настаўніцкай газеце» надрукавана «Канцэпцыя моўнай адукацыі ў школах Беларусі» (праект). Першапачатковы варыянт канцэпцыі быў апублікаваны яшчэ ў 1990 годзе і абмеркаваны на пашыраным пасяджэнні калегіі Міністэрства адукацыі. Пасля гэтага праект абмяркоўваўся на рэспубліканскай навукова-метадычнай канферэнцыі, на абласных і гарадскіх нарадах настаўнікаў, у абласным і гарадскім інстытутах удасканалення настаўнікаў у Менску, у рэспубліканскім Доме настаўніка. З улікам выказаных заўваг, як адзначаюць яго аўтары, праект быў дапрацаваны.*

*Праект складаецца з чатырох раздзелаў: «Асноўныя мэты моўнай адукацыі», «Аналіз сучаснага стану выкладання моў у школе», «Асноўныя шляхі дасягнення мэт моўнай адукацыі» і «Навучальна-метадычнае забеспячэнне навучальнага працэсу».*



ВЫХОДЗІЦЬ НОВЫ ЧАСОПІС «АДУКАЦЫЯ І ВЫХАВАННЕ». У КОЖНЫМ З 12 ЯГО НУМАРОЎ МЯРКУЕЦЦА ДРУКАВАЦЬ СПЕЦЫЯЛЬНЫ РАЗДЗЕЛ ДЛЯ ТЫХ, ХТО ВЫВУЧАЕ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ. ЗАСНАВАЛЬНІКАМ ЧАСОПІСА З'ЯЎЛЯЕЦЦА БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ.



# ПАЧЫНАЮЧЫ З «ЭПОХІ» БРЭЖНЕВА



***Здаецца, зусім нядаўна самавыдавецкі друк быў крамолай. Нікога за яго, праўда, не «бралі», але ж да канца жніўня мінулага года, калі стала ўжо ўсім зразумела, што путчысты праваліліся, атмасфера насцярожлівасці ў грамадстве ўсё ж захоўвалася.***

І ВОСЬ настаў час, калі тыя першыя сціплыя лістоўкі (улёткі, як іх называюць «нефармалы») сталі не толькі прадметам гонару іх аўтараў, а і прадметам уважлівага вывучэння кампартыйных спецслужб. Адной з найбольш сур'ёзных спроб прааналізаваць падпольныя лісткі стаў артыкул навуковага супрацоўніка Беларускага навукова-даследчага інстытута адукацыі Юрася Лаўрыка «Беларускі самавыдавецкі друк» (газета «Кнігарня», № 7, 1991 год).

Зрабіўшы кароткі гістарычны экскурс у беларускі «самвыдат», аўтар затым даследуе эвалюцыю непадцэнзурнага друку на працягу апошніх 25 гадоў. Пра незалежныя выданні да 1965 года мы, на жаль, падкрэслівае Ю. Лаўрык, аніякіх звестак не маем. Не выключана, што яны існавалі, але былі рэдкімі і вельмі законспіраванымі. Паводле водгукаў прагрэсіўнай інтэлігенцыі, першыя матэрыялы «самвыдата» адносяцца да 1965 года. Да пачатку 1970-х гадоў такія выданні былі пераважна рускамоўнымі. Яны падзяляліся на тры жанравыя групы: а) мастацкія творы (М. Булгакаў, Б. Пастарнак); б) філасофскія працы агульначалавечага значэння (М. Бярдзяеў, С. Булгакаў); в) антысталінскія артыкулы і матэрыялы. Выключэннем з'яўляецца, мабыць, толькі рукапіс М. Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа», які распаўсюджваўся ў машынапісных копіях.

Наступны этап (з 1971 па 1988 г.) характарызуецца з'яўленнем у рэспубліцы нацыянальных па духу выданняў. Да іх ліку можна аднесці рукапісны часопіс «Блакітны ліхтар» (1971 г.), які выпускаўся гуртам навапалачанаў (пераважна студэнтаў), што спрабавалі свае сілы ў літаратуры. Сярод выдаўцоў перыёдыкі былі, дарэчы, і вядомыя сёння маладыя пісьменнікі У. Арлоў і В. Мудроў. Часопіс не праіснаваў і двух гадоў — на пачатку 1973 г. «Ліхтар» пагасілі.

Было яшчэ некалькі самадрукаў: літаратурны часопіс «Мілавіца» (народная назва зоркі Венеры), а таксама грамадска-палітычныя выданні: газета «Аб усім, што баліць» (або «Гутаркі», 1975 г.), часопісы «Люстра дзён» і «Бурачок». Першы нумар апошняга называўся «Вітажэнец» па псеўданіму К. Каліноўскага.

Газету «Аб усім, што баліць» выдаваў філолаг і гісторык Мікалай Іванавіч Ермаловіч. Гэта быў штотыднёвік памерам ад адной да пяці старонак машынапіснага тэксту (вострапубліцыстычныя вершы, артыкулы, памфлеты), падпісаны псеўданімам «Сымон Беларус». Выходзіла газета больш за год.

Цікавым быў часопіс «Люстра дзён». Выдавала яго Беларуская Талеранцыйная Грамада. На жаль, прозвішча выдаўца або выдаўцоў высветліць не ўдалося.

«Бурачок» выдаваўся ў 1986—1988 гадах інтэлектуальнай элітай маладзёжнага адраджэнскага руху. Першапачаткова меркавалася кожны новы нумар часопіса называць псеўданімам аднаго з дзеячаў беларускага руху («Вітажэнец», «Бурачок» і інш.). Аднак у выніку таго, што другі нумар часопіса набыў вялікую папулярнасць сярод моладзі, вырашана было загаловак выдання не мяняць. Трэці нумар абмінула ўдача. Амаль увесь наклад быў арыштаваны КДБ пад час яго распаўсюджвання. Выпуск часопіса прыпыніўся.

Прыкладна з другой паловы 70-х гадоў для капіравання і множання самавыдавецкіх матэрыялаў пачынае ўжывацца ксеракс. Але наклады яшчэ рэдка перавышаюць 10—20 экземпляраў. На гэтым фоне стварэнне ста копій з «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» В. Ластоўскага ў 1980 годзе навапалацкім нацыянальным асяродкам з'явілася сапраўдным падзеяй. Ксеракс ажывіў самавыдавецкі рух.

У 1988 годзе ў развіцці беларускага самадруку пачынаецца новы перыяд, звеступамі якога сталі «Навіны» Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» і «Студэнцкая думка». З гэтага часу лік беларускіх непадцэнзурных выданняў пачынае няўхільна расці.

ПЫТАННЕ — АДКАЗ

## Дзе набыць беларускія паштоўкі?

*Шаноўная рэдакцыя «Нашага слова»! Мне трэба было набыць беларускі каляндар, але нідзе ў Менску я не змог яго знайсці. Адзін мой былы сусед, які цяпер жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, звярнуўся да мяне з просьбай даслаць яму некалькі беларускіх каляндарыкаў і паштовак. Я яшчэ раз абышоў шмат кіёскаў і кнігарняў, але іх так і не знайшоў.*

*Можа, Вы ведаеце, дык падкажыце, дзе ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь знайсці беларускія каляндарыкі і паштоўкі? Ці, можа, гэта наогул неіснуючая ў прыродзе з'ява? Тады чаму не выконваецца Закон аб мовах і да якога часу беларусы на Беларусі будуць цярпець ад дыскрымінацыі?*

Васіль РЫЧЫК.
г. Менск.

**Галоўны мастак выдавецтва «Беларусь» Генадзь Іванавіч Мацур паведаміў, што, пачынаючы з мінулага года, група мастакоў інтэнсіўна працуе над эскізамі беларускіх паштовак. Ужо ў 1991 годзе паступілі ў гандаль беларускія віншавальныя паштоўкі і паштоўкі з выявай нацыянальнай сімволікі, у прыватнасці «Пагоні», а таксама камплект «Гродна на старых паштоўках». Вядзецца распрацоўка эскізаў новых паштовак — віншавальных і з нагоды розных свят — Каляды, Новага года, Вялікадня, Дзядаў, 8 Сакавіка, дня нараджэння і інш.**

**Далей Генадзь Іванавіч падкрэсліў, што яны зацікаўлены выдаваць нацыянальныя паштоўкі вялікімі тыражамі ад 50 да 100 тысяч. Але на самай справе тыраж не перавышае і 5 тысяч. Прычын некалькі. Адна з іх — адсутнасць якаснай паперы, што паступала ў асноўным з Фінляндыі. Цяпер даводзіцца выкарыстоўваць старыя запасы, а таксама купляць паперу па высокіх цэнах на біржах і ў кааператараў. Другая прычына — незацікаўленасць упраўлення кніжнага гандлю «Белкніга» ў распаўсюджванні нацыянальных паштовак. Экспертыза (часта ў асобе аднаго чалавека) вырашае, што паштоўкі купляцца не будуць, і тыраж памяншаецца з 50 да 5 тысяч.**

**Што тычыцца беларускіх календароў, то Генадзь Іванавіч адзначыў: у мінулым годзе выйшаў адрыўны каляндар на 1992 год «Родны край». У ім змешчана інфармацыя пра важнейшыя даты і падзеі, звесткі пра гісторыю, культуру і народную гаспадарку Беларусі, карысныя парады па вядзенні хатняй гаспадаркі і выхаванні дзяцей. Выйшаў таксама насценны каляндар «Беларускія абрады» на 1992 год, які змяшчае рэпрадукцыі абразоў беларускіх майстроў розных стагоддзяў. Плануецца выхад «Беларускага народнага календара» на 1993 год (складальнік І. А. Васілевіч, мастак Ю. П. Герасіменка). Нацыянальныя абрады, звычаі, прыкметы, павер'і, прыказкі складуць змест гэтага насценнага календара з 12 аркушаў. Выдавецтва «Беларусь», дарэчы, мае ў Менску кнігарню ў падземным пераходзе на станцыі метро «Плошча Перамогі», дзе можна набыць беларускія паштоўкі і календары.**

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.



# САПРАЎДНАГА БЕЛАРУСА?

вальд»)».

Усё так, але ці варта чытачоў гэтых выданняў татальна залічваць у аматары «фронтаўкі»? Дарэчы, я ж таксама выпісваю ці рэгулярна купляю іх у кіёсках. А калі яны толькі пачыналіся, пастаянна перадаваў чырвонцы і болей для іх фінансавай падтрымкі з не такіх ужо і вялікіх сваіх заробкаў. Гэтак жа рабілі некаторыя іншыя пісьменнікі — Янка Брыль, напрыклад, Віктар Карамазаў, Павел Місько, Уладзімір Дамашэвіч і шэраг яшчэ, хто не пісаў і не збіраецца пісаць «фронтаўкай». Проста не змогуць, калі іх нават нейкім чынам, не прывядзі Гасподзь, прымусяць. Ці адкінуць пахунвейбінаўску (ну вось, зноў Азія ўспомнілася!) прэч іх творчасць, а саміх паслаць у вёску на перавыхаванне? Не лічыцца з філіграннай прозай Янкі Брыля, Яна Скрыгана (пацярпелага, дарэчы, за «нацдэм»), раманамі Івана Мележа, сусветна вядомымі аповесцямі Васіля Быкава, паэзіяй Сяргея Грахоўскага (зноў жа — былога вязня ГУЛАГа за «нацдэм») ды і многіх яшчэ празаікаў і паэтаў? Нехта з маладых, магчыма, мяркуе, што ён асабіста ад гэтага выйграе. Але ж так некалі лічылі і тыя, хто падбухторваў расправу над «нацдэмамі». А што мы маем ад той «пралетарскай акцыі»? У тым ліку і самі завадатары «чыстак»? Генадзь Барсук, як вышэй адзначалася,— за памяркоўнасць: нават «вяртаючы дарэформенны правапіс,— піша ён,— трэба захаваць згоду зь прыхільнікамі вашае думкі». Ён — за яе пошук «на навуковых канфэрэнцыях» і за тое, што калі нешта мяняць, то «па дамоўленасці». А вось на чым стаіць цвёрда, гэта на тым, што «безумоўна «Мяккі Знак» гандлю не падлягае». Усё з вялікай літары — і ствараецца ўражанне ці не своеасаблівага «сымболя» сапраўднага беларуса. А ў падтрымку свайго меркавання прыводзіць многія радкі з паэмы «барда, сябра Сойма БНФ Сяржука Сокалава-Воюша» «Мяккі Знак», дзе гаворыцца, што бальшавікі ненавідзелі Мяккі Знак і асудзілі яго «на скон, як буржуйскага здрайцу-шпега». Прызнацца, сам люблю песні Сяржука, але ці сапраўды не карысталіся бальшавіцкія карнікі дзеля сваіх чорных спраў і «безгалосым слугою граматык»? Давайце зірнём на тэксты з беларускіх газет пачатку трыццатых гадоў. Вось некалькі выпісак, зробленых з універсітэцкай шматтыражкі «За сталінскія кадры»:

«...Рабочая кляса, узброеная Ленінскай тэорыяй, рыхтуецца да апошняга і рашучага штурму капіталістычных мураў... Толькі што скончылася чыстка нашае ячэйкі. Чыстка паказала, што мы зьяўляемся бальшавіцкі-згуртаваным калякцівам...»

З інстытуцкай шматтыражкі «Ленінец» таго ж перыяду:

«...Мы адмаўляемся ад ударных групаў, якія вылучаюцца зь агульнае масы студэнцтва, таму што ўвесь Камвуз перад тварам партыі абвяшчае сябе ўдарным у адносінах узьнясьця вытворчасьці працы, паскарэньня тэмпаў сканчэньня Камвузу...»

Спакойна выкарыстоўвала «безгалосага слугу граматык» не толькі прапагандысцкая машына, але і карныя органы непасрэдна:

«Пастанова 1930 г. жніўня 15 дня аб прыцягненьні да сьледцтва ў якасьці абвінавачваемага

...гр-на Ластоўскага Вацлава Усьцінавіча дапытаць у якасьці абвінавачваемага... прад'явіўшы абвінавачваньне ў прыналежнасьці да нелегальнай к.р. арганізацыі, г. зн. у злачынстве, прадугледжаным 76 арт. КК, аб чым аб'явіць яму пад расьпіску...»

«Выпіс з пратаколу пасяджэньня Прэзыдыуму ЦВК Советаў Беларускай Соцыялістычнай Рэсп. ад 2.XI.—1930 г.

Пастанавілі:
хадайнічаньне ДПУ Бел. аб працягненьні тэрміну трыманьня пад вартай падсьледственых Некрашэвіча С. М., Баліцкага А., Адамовіча А., Прышчэпава Д., Цьвікевіча А. І., Ластоўскага В. У., Цьвікевіча І. І., Шлюбскага А. А., Лёсіка І. Ю., Чаржынскага В. В., Грамыку М. М., Смоліча А. А., Трамповіча П. І., Краскоўскага І. І. (цвет беларускай навукі! — Э. Я.) задаволіць»...

Нікога з іх не пакінулі жывымі. А пісалі ім смяротны прысуд яшчэ «тарашкевіцай». Выкарыстоўвалі і яе бальшавікі дзеля сваіх, як тады пісалася, «клясавых мэтаў».

А зараз вось што падумалася: ці не выкарыстоўваюць «абаронцы пралетарыяту» тое, аб чым раптам разгарэлася спрэчка, з намерам учыніць раскол у стане дэмакратаў у самы адказны перыяд станаўлення беларускай дзяржаўнасці? У свой час агентуры КДБ, відаць, такім жа прыёмам удалося аддзяліць эміграцкі асяродак ад «кантынентальнай» Беларусі (на што, мяркуючы па газеце «Ніва», не паддалася інтэлігенцыя Беласточчыны, у якой былі значна больш трывалыя сувязі з БССР). На такі роздум, дарэчы, наводзяць нядаўнія падзеі ў Францыі. Перад самым пачаткам вайны ў Персідскім заліве журналісты высветлілі, што некаторыя магутныя фірмы ваеннапрамысловага комплексу насуперак забароне ўрада тайна прадавалі высокаэфектыўную зброю рэжыму Садама Хусейна. А ёю могуць быць забіты французскія салдаты, якіх накіроўвалі ў зону баявых дзеянняў. Справай заняліся следчыя органы, парламент. І тады раптам у сродках масавай інфармацыі ўсчынаецца палкая дыскусія... аб удасканаленні правапісу. Газеты публікуюць спрэчкі апанентаў, роспыты насельніцтва, параўнальныя табліцы, прагнозы. У гэтым вялікім ляманце некуды на другі ці нават трэці план адышлі паведамленні аб ходзе следства па продажу зброі ў абход закону. І вось дзіва: як толькі ў Персідскім заліве баявыя дзеі скончыліся, бы па камандзе аціхлі і спрэчкі вакол правапісу, хоць сама праблема і засталася. Словам, калі хто і лічыць, што змены ў заходнееўрапейскіх мовах беларусам не ўказ, то над апошнім выпадкам усё ж варта задумацца.

А ўвогуле, баюся, людзі добрыя, падзелу грамадзян на «белых» і «чорных» яшчэ і па прыкмеце, хто і як прызвычаіўся пісаць ці вымаўляць словы. Калі без варажнечы, то неяк жа паразумеемся.

Эрнэст ЯЛУГІН.

## РАЗМОЎНІК ВЕТЛІВАГА ГОСЦЯ

*Гасцяванне ў Германіі*

Як ваша імя?
Wie heiβen Sie?
ві: хайсэн зі:?
Я не разумею ваша пытанне.
Ich verstehe Ihre Frage nicht.
іх фэрштэ: і:рэ фрагэ ніхт.
Гаварыце павольней (выразна)!
Sprechen Sie langsamer (deutlich)!
шпрэхен зі: лангзамэр (дойтліх)!
Мяне клічуць Мікола.
Ich heiβe Mikola.
іх хайсэ Мікола.
Вы размаўляеце па-нямецку?
Sprechen Sie deutsch?
шпрэхен зі: дойч?
Шкада, што я не гавару па-нямецку.
Wie schade, daβ ich nicht deutsch spreche.
ві: шадэ, дас іх ніхт дойч шпрэхе.
Хто тут гаворыць па-беларуску (па-нямецку)?
Wer spricht hier belorussisch (deutsch)?
вэр шпріхт хі:р белорусіш (дойч)?
Ці не можаце мне дапамагчы?
Können Sie mir helfen?
кёнэн зі: мір хелфэн?
Як (што) вы сказалі?
Wie (was) sagen Sie?
ві: (вас) заген зі:?
Мне трэба вам нешта сказаць.
Ich muβ Ihnen etwas sagen.
іх мус і:нэн этвас загэн.
Калі вы не разумееце, то спытайцеся.
Wenn Sie nicht verstehen, so fragen Sie!
вэн зі: ніхт фэрште:н, зо фрагэн зі:

*«Весялінка» — дзіцячая старонка*

# Сігналы-сімвалы

Напэўна, у вас калі-небудзь узнікала пытанне, як людзі раней абыходзіліся без пісьма. Аказваецца, выкарыстоўвалі сігналы-сімвалы.

У кожнага народа ёсць свае сігналы-сімвалы. Яны абазначаюць тое ці іншае паняцце, штосьці забараняюць ці дазваляюць. Сігналы ў жыцці людзей маюць вялікае значэнне. У старажытных грэкаў нават была легенда пра трагедыю, якая адбылася з-за сігналу.

...Даўным-даўно на востраве Крыт жыло страшыдла, напалову чалавек, напалову бык. Звалі яго Мінатаўр. Кожныя дзесяць гадоў грэкі павінны былі пасылаць яму страшную даніну — сем юнакоў і сем дзяўчат, якіх ён з'ядаў. Ніхто не мог перамагчы Мінатаўра. І ніхто не мог ад яго вывратавацца.

Жыў Мінатаўр у Лабірынце, у якім былі такія заблытаныя калідоры і пераходы, што выйсці з яго было немагчыма. (Цяпер слова *лабірынт* абазначае тое, у чым можна заблытацца, адкуль цяжка знайсці выхад).

Але знайшоўся мужны юнак па імені Тэсей, які вырашыў выратаваць людзей ад Мінатаўра. Ён падрыхтаваў карабель, каб адплыць на Крыт. На караблі былі розныя ветразі: адны чорныя, а другія белыя. Перад тым як адплыць на Крыт, Тэсей дамовіўся са сваім бацькам так: колер ветразяў, пад якімі карабель вернецца з плавання, будзе сігналам перамогі ці пагібелі (белы — перамогі, чорны — пагібелі).

І вось моцны, смелы і разумны Тэсей перамог Мінатаўра, удала выбраўся з Лабірынта і адправіўся ў зваротны шлях. Ён быў такі шчаслівы, што зусім забыўся пра дамову з бацькам, а той дзень пры дні стаяў ля берага, углядаючыся ў марскую далячынь. Нарэшце, шчаслівы Тэсей наблізіўся да родных берагоў. Але... яго карабель ішоў пад ветразямі, якія абазначалі паражэнне і пагібель. Убачыўшы здалёку карабель і колер яго ветразяў, бацька кінуўся са скалы ў мора і загінуў...

Падрыхтавала
Любоў ЛАМЕКА.



## Аканне

*(Працяг. Пачатак у № 9—10).*

Наш славуты лінгвіст Я. Карскі вывучаў мову беларуска-літоўскіх летапісаў і назваў яе «очень чистым западно-русским языком XV—XVI столетий». Вучоны адзначыў важную рысу старабеларускай мовы: «В области гласных первое место в теперешних белорусских говорах и старом западнорусском занимает аканье». Я. Карскі падае шматлікія прыклады з «Летапісца Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» ды з «Кронікі аб Вялікіх князях Літоўскіх»: «Рынкгалту, за Мазырем, караблех, з Навагородка, начовал, Витовтавы, стаяти, польтараста, манастырь, безавсякого, горазда». Апошнія тры, «иностранные», як бачым, таксама былі напісаны паводле беларускай традыцыі. Даследчык быў перакананы, што «случаи написания *о* на месте этимологически правильного *а*, как *у комноте* рядом с *у комнате*» сведчаць пра аканне пісца, які не адрозніваў ненаціскное *о* ад *а*. Выпадкаў з'яўлення *а* на месцы *е* ў даследаваных летапісах значна менш.

Я. Карскі заўважыў у «Летапісцы...» ды ў тэксце «Кронікі...» яшчэ адну асаблівасць нашай мовы — ужыванне *а* як злучніка замест *і*: «Прошка *а* Белик *а* Кучук *а* Лисица», «Корачова *а* Слоним». Падобныя прыклады Я. Карскі знайшоў не толькі ў летапісах, але і ў Статуце Вялікага княства Літоўскага і ў перакладзеных на беларускую мову творах мастацкай літаратуры («Александрыя» ды «Аповесць аб Трыстане»). Гэтая асаблівасць нашай мовы была вядома і аўтару «Слова пра паход Ігаравы», якое заканчваецца сказам: «Князю слава *а* дружыне». Злучнік *а* нясе тут больш значную эстэтычную нагрузку, чым верагодны злучнік *і*, і надае твору больш выразнае гучанне. Гэтую моўную з'яву, відаць, нельга назваць аканнем, але яна — яшчэ адно сведчанне вялікай ролі гука *а* ў беларускай мове.

*(Працяг будзе).*

# Асцярожна: «пятая калона»!

Прачытаў у «Нашым слове» допіс Івана Патапейкі «Дзякую — дзеяслоў». Аўтар публікацыі амбіцыёзна сцвярджае: «Вельмі прыкра слухаць, калі... не абы ад каго, а з вуснаў адукаваных журналістаў гучыць недарэчнае... «Вялікі вам дзякуй!»

І далей Патапейка прыводзіць доказ, узяты, відаць, з арсенала людзей, невылечна хворых на нацрабства: «Можна параўнаць гэтае слова з расійскім (падкрэслена мною — А. Ю.) «спасибо», якое ўтварылася таксама ад дзеяслова загаднай формы «спаси Вас Бог».

І зусім не важна, што ў расійскае мове *благодарить* — к о г о? *его;* а ў беларускай *дзякаваць* — к а м у? *яму*. Галоўнае, каб як у «старшего брата», а гэтых жа «адукаваных журналістаў», каб не перашкаджалі «слиянию в великий и могучий», маўляў, лепей за ўсё ў ссылку!

Устрывожаны публікацыяй, патэлефанаваў старшыні Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Нілу Сымонавічу Гілевічу.

— Я перакананы, што трэба казаць «вялікі дзякуй». Той, хто кажа «вялікае», механічна пераносіць з рускай, а трэба арыентавацца на жывую мову,— адказаў паэт.

Навукова абгрунтаваўшы, пацвердзілі гэтую ж думку і выкладчыкі Белдзяржуніверсітэта Мікола Каваленка і Марыя Карповіч. І вялікі дзякуй «Нашай Ніве», «Звяздзе», «ЛіМу», усім сумленным «рыцарам пяра» за правільнае беларускае вымаўленне!

І ўсё ж такі не пакідае трывога ў дачыненні да «товарища» Патапейкі. Замест таго, каб выступіць як апаненту Адраджэння, ён заяўляе: «Відаць, некаму прыйшлося не даспадобы наша слова»...

Алег ЮШКЕВІЧ.

# «Вялікі дзякуй»

**Колькі разоў даводзілася чытаць і чуць, што выслоўе «вялікі дзякуй» з'яўляецца калькаваным перакладам-прыпадабненнем расійскага «большое спасибо». І вось «Наша слова», «давяршаючы» працэс разняволення выразу «вялікі дзякуй» ад цэню расійскага адпаведніка, друкуе допіс сп. Патапейкі. Друкуе без усялякага каментару, як, дарэчы, і «славутую» нататку пра «яечкі—марожанае».**

**Што ж, я мушу згадзіцца са сваім земляком, што слова «дзякую» папраўдзе — дзеяслоў. Але нельга ў пятлю дзеяслова сілком піхаць назоўнік «дзякуй», ды яшчэ ў дадатак загнаць гэтаму назоўніку ў «рот» кляп з (зноўку-такі) расійскамоўных прыкладаў.**

**Што да пісьменнасці выразу «вялікі дзякуй», то нават «Беларуска-рускі слоўнік» (1988 г., т. І) аддае перавагу слову «вялікі», праўда, не забывае пры гэтым дадаць у дужках «вялікае».**

**«Вялікі дзякуй» — гэта чуем і ад нашых філолагаў і ад беларусаў замежжа, і ўспрымаем як належнае. А калі хтосьці з беларусаў, вяртаючыся да роднай мовы, усё яшчэ аглядаецца, а як у расійскай мове, я хацеў бы ім параіць часцей звяртацца да народнай, жывой мовы.**

**Віктар МАЛІНОЎСКІ.**
**г. Бабруйск.**

# А калі зазірнуць у спадчыну...

Францішак Скарына некалькі разоў выкарыстаў дзеяслоў *дзякаваць* у сваіх перакладах Бібліі. «Есть роть, еже не дякуеть матери своеи» (Прытчы Саламонавы, 45б.), «молился и дяковалъ за таковое обещание Царь Давыдь господу Богу» (Другая кніга «Царстваў», 77б.). «онъ лежа подъ одежею своею дяковалъ тобе» (Другі закон, 46б.).

А Іван Насовіч у слоўніку беларускай мовы «Словарь белорусского наречія», Санктпетербургъ, 1870) прывёў словы жывой народнай мовы: «Дзяковаць Богу за все. Дзяку тобе за гето, а за другое боли подзякую. Дзякуй вамъ за хлебъ-соль». Як бачым, у народнай мове назоўнік *дзякуй* ужываўся, відаць, здаўна.

*Беларусы-філолагі*

# КАПЫЛЯНІН

Вершы Алеся Гурло (1892—1938) друкаваліся ў «Нашай ніве» з 1909 года. Зборнікі яго твораў выходзілі напрыканцы 30-х гадоў і пасля вайны. Ды з біяграфіі паэта была выкраслена яго навуковая дзейнасць. Сакратар тэрміналагічнай камісіі Інстытута беларускай культуры Алесь Гурло рыхтаваў да выдання вельмі патрэбныя ў той час слоўнікі, самастойна апрацаваў слоўнік «Тэхнічная тэрміналогія», у які ўвайшло 6818 тэрмінаў і словазлучэнняў. Гэтая першая ластаўка з'явілася ў 1932 годзе, калі пасля арышту паэт ужо быў сасланы ў Самару. Адтуль Алесю Гурло ўсё ж удалося вярнуцца ў Менск, дзе падчас арышту 4 лютага 1938 года ён раптоўна памёр.

З. С.

# Кароткі слоўнік эканомікі

**ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ «ДЗІКАЯ».** Вынаходніцтва не звычайнае, хоць радасці простаму люду ад таго мала. Адбываецца пры пераходзе ад аднаго сацыяльна-эканамічнага стану краіны ў іншы, калі дзяржаўнай маёмасцю бескантрольна распараджаецца вышэйшае чыноўніцтва. Вельмі трапна ахарактарызаваў гэтую з'яву ў сённяшняй Беларусі вядучы канструктар Менскага аўтазавода, народны дэпутат рэспублікі Мікалай Крыжаноўскі: «Вярхоўны Савет, у складзе якога большасць адданых прадстаўнікоў былой кампартыйнай наменклатуры, пакуль што не прыняў закона аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці і не стварае механізма рэалізацыі пакуль што толькі дэкларатыўнага права прыватнай уласнасці на зямлю. У той час уся гэта наменклатура і звязаная з ёю мафія на падставе розных часовых падзаконных актаў спешна праводзіць гэтак званую дзікую прыватызацыю, адкрыта раскрадаючы створаную народам дзяржаўную ўласнасць... Ніхто з іх сёння не займаецца ні прамысловасцю, ні сельскай гаспадаркай».

Як сведчыць сусветная практыка, заканчваецца ўсё гэта ці стыхійным выбухам народных мас і рабаўніцтвам усяго і ўсіх, ці прыходам да ўлады новых палітычных сіл і прыняццем закона, якім ранейшая «дзікая» прыватызацыя анулюецца і назначаецца крымінальнае следства. Так што будзе лепей, калі гэтую складаную справу ўсё ж зрабіць цывілізаванымі сродкамі, а не займацца тым, што народ трапна назваў «прыхватызацыяй».

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—10).*

...І ПАСЛЯ...

Па дарозе дадому я зайшоў у «Фота» — спытаць, ці гатовыя фотаздымкі маёй дачкі. Папрасіў прабачэння, што спазніўся...

— Ой, вы так хорошо говорите по-белорусски,— сказала мне маладзенькая дзяўчына, перабіраючы канверты са здымкамі.— Так прыятно вас слушать!..

— Няўжо?..

— Правда... Вы, наверное, в театре работаете?..

— Да-а... Сапраўды — жывы тэатр на сцэне беларускай сталіцы!.. Вы беларуска?..

— Нет, я недавно приехала... Из Московской области...

— А калі б у вас у Маскве спыталі: чаму гэта вы па-руску гаворыце?.. Вы, часам, не ў Малым тэатры працуеце?..— Як бы вы рэагавалі на гэта?..

— А правда... Вот я в Киеве была... Остановки в автобусе объявляют по-украински. Я — ничего не понимаю... И пассажиры между собой как-то по-украински говорят...

— Няўжо?.. Што яны — звар'яцелі?!

(Смяецца...).

— Вы таксама здалёк да нас прыехалі? — спытаў я ў яе напарніцы.

— Нет, я белоруска,— сказала яна, крыху засаромеўшыся.

— Нешта я не чую вашай беларускасці... Толькі бачу — прыгажосць вашу...

(Пачырванела... маўчыць...).

— Усяго вам добрага, дзяўчаты!..

— Да пабачэння,— адказала з добрай усмешкай тая, што прыехала з Маскоўскай вобласці.

— Да пабачэння,— далучылася да яе прыгажунечка-беларусачка...

### З ЛІСТА БЫЛОГА БЕЛАРУСА...

Развітаўшыся з дзяўчатамі, я ізноў — каторы ўжо раз! — вярнуўся ў думках сваіх у студзень 1977 года, калі адна жанчына паказала мне ліст з Масквы — ад свайго роднага брата. Ён дзяліўся з ёю сваімі ўражаннямі аб кнізе ўспамінаў пра вядомага беларускага паэта. У лісце шасцідзесяцігадовага беларуса, інжынера па прафесіі, які ўжо некалькі дзесяцігоддзяў жыў і працаваў у Маскве і толькі зрэдку прыязджаў у Мінск да сястры, быў фрагмент, які мяне моцна ўразіў, і я, з дазволу гаспадыні, перапісаў яго. Відаць, менавіта з гэтых радкоў і пачала складацца кніга «Што мы думаем пра цябе — беларуская мова?..».

Вось гэтыя радкі:

«...Второе моё замечание по поводу перевода на белорусский язык. За такой перевод я поставил бы переводчикам двойку. Мне, белорусу, читать эту книжку, написанную на родном языке, довольно трудно. Воображаю, как могут ее читать остальные. Ведь в наш век технического прогресса, массовой информации, укрепления международных связей, роста экономики, культуры, грамотности, социальных потрясений и, наконец, в силу географического положения Белоруссии сам по себе белорусский язык за последние годы сильно изменился, значительно сузилась область его применения. Белоруссия является наглядным примером сближения наций (русской и белорусской), о котором в свое время говорил Ленин. Сейчас всюду и везде, на конференциях, в деловой переписке, при издании научной, технической литературы и т. д. применяется русский, а не белорусский язык. Высокий уровень транспортных связей ликвидировал «медвежьи уголки», где сохранился белорусский язык, национальные традиции и т. д. Белорусский разговорный язык сейчас стал русско-белорусским. И вот в такой обстановке находятся мудрецы, которые выкапывают из глубины веков давно вышедшие из употребления слова или просто выдумывают новые и преподносят нам как развитый современный настоящий язык, мало кому понятный. Ведь народ не хочет такого языка, он предпочитает своих детей посылать не в белорусские, а в русские школы, покупать не белорусские, а русские газеты и т. д. Зачем же навязывать такой язык людям, который не помогает, а мешает росту культуры? Мы сейчас живем в такое время, когда русский язык стал изучаться в 70 странах мира, когда неизмерно вырос авторитет этого языка, нашей страны. Спрашивается, зачем становиться поперек жизни, чураться русского языка, тратить деньги, издавать книги, журналы на языке, мало известном широкому читателю?»

Беглі дні, тыдні... Фрагмент гэты ўсё не выходзіў з мае галавы...

Нічога прынцыпова новага — у параўнанні з тым, што я чуў аб гэтым раней,— тут не было: паасобку і з меншым запалам падобныя меркаванні даволі часта выказваюцца нашымі сучаснікамі. Але па спрасаванасці аргументаў і своеасаблівай глыбіннай эмацыянальнасці гэта было значна мацнейшым за ўсё папярэдняе...

Неяк сама сабой з'явілася думка — зрабіць невялічкую падборку тэкстаў: «Беларускія паэты — пра беларускую мову»...

Зрабіў. І разам з «лістом маскоўскага беларуса» пачаў паказваць іх людзям розных прафесій і пакаленняў, запытваць: што яны думаюць пра ўсё гэта?.. Іхнія ўражанні і думкі я запісваў. Некаторыя — самі мне нешта пісалі. І з гэтых запісаў атрымалася кніга, якая цяпер перад Вамі.

Вашы думкі аб гэтых тэкстах, паважаны чытач, аб тым, што ў іх,— я таксама буду чакаць з вялікай цікавасцю і ўдзячнасцю...

*(Працяг будзе).*

## *Адаму Багдановічу — 130!*

*Ірына КРЭНЬ*

# Мой тытул у Беларусі — «бацька паэта»



Адам Ягоравіч Багдановіч належаў да тых людзей, памяць аб якіх доўга зберагаецца ў народзе.

Нарадзіўся Адам Ягоравіч 20 сакавіка 1862 года ў мястэчку Халопенічы былога Барысаўскага павета (цяпер Крупскі раён). Яго бацька Ягор Лук'янавіч быў дваровым пана Лапы, працаваў у маёнтку кухарам. У час рэформы 1861 года ён не атрымаў зямельнага надзелу і быў вымушаны ў пошуках заробку пераязджаць з сям'ёй з месца на месца.

Калі бацька траціў працу, сям'я вярталася ў Халопенічы да бабулі Рузалі Асьмак, вядомай казачніцы і варажбіткі, і жыла з таго, што даваў лапік зямлі памерам шаснаццаць на восемдзесят сажняў пры старэнькай хаце. Аднак паколькі бабуля Рузаля і маці Анэля былі выдатнымі гаспадынямі, хораша пралі і ткалі, то сям'я абдзёртай і галоднай не хадзіла. Адам Багдановіч прыгадваў, што яго маці валодала выключнымі матэматычнымі здольнасцямі (напрыклад, узводзіла ў 7 ступень) і была такая ж таленавітая апавядальніца, як і бабуля. У зімовыя вечары дзеці, седзячы на печы, слухалі казкі. Бабіна хата з яе казачнай атмасферай стала для Адама першай адукацыйнай школай, дзе задавальняліся яго разумовыя і эстэтычныя запатрабаванні. Спакваля казка выхоўвала ў яго любоў і спачуванне да простага чалавека, нянавісць да ўсялякага зла і несправядлівасці. Мінуць гады, і ён стане заўзятым збіральнікам фальклорнага багацця, накопіць велізарны матэрыял, апублікуе дзве кнігі па этнаграфіі. А ў канцы жыцця са скрухай прыгадае, што большасць з таго, што ён сабраў і запісаў, загінула незваротна: «Напісаў я, уласна, многа, каля ста ці нават больш друкаваных аркушаў, лічачы тое, што ў рукапісах. Гэта вельмі многа, калі ўзяць пад увагу, што я ніколі не займаўся адной справай, а дзвюма, трыма паралельнымі... Напісаў многа, а толку мала: усё гэта канула ў Лету правінцыяльных часовых выданняў, дзе іх і заўзяты бібліёграф не знойдзе. Адны толькі «Перажыткі» ды тое, што надрукавана ў зборніках Акадэміі навук, могуць мець дзейснае значэнне...» («Мае ўспаміны»).

У шэсць гадоў Адам Багдановіч пайшоў вучыцца ў халопеніцкую школу, дзе панавалі строгія парадкі: дзяцей секлі розгамі, ставілі на калені, білі «ў лапу». Вучыўся на славутых «Начатках хрысціянскага праваслаўнага навучання», як і Якуб Колас, вучыўся вельмі старанна, заслужыў славу лепшага вучня. З першага артыкула «Начаткаў» ён даведаўся, што яго бацькаўшчына Расія. А далей пайшло: Русь язычніцкая, Уладзімір — язычнік, хрышчэнне Русі і г. д. Адам Ягоравіч прыгадваў, што ён тады ўпершыню з гонарам асэнсаваў сваю прыналежнасць да Расійскай дзяржавы.

Вучыўся Адам у Халопенічах зімою, а ў астатнія поры года зарабляў капейкі на службе ў пана. У 1870 годзе яго бацька пераехаў з сям'ёй у Менск. Працаваў ён, як заўсёды, кухарам. Быў Ягор Лук'янавіч, па словах сына, «купаны ў гарачай вадзе», рэзкі і незалежны ў адносінах з людзьмі, меў цвёрдую руку і цвёрды характар. Напамін аб тым часе знаходзім у пісьме Вацлава Ластоўскага да Адама Багдановіча: «Памятаю Вашы словы на ганку ў Мінску. Вы паказалі на сад і сказалі: «Вось тут татка мой, дзякуй яму, мяне не раз сек розгамі». Мяне расчуліў Ваш сказ, і я заўсёды прыгадваю яго разам з Вамі. У гэтых простых словах было многа любві».

У Менску Адам паступіў у гарадское пачатковае вучылішча, у якім пазней ён быў загадчыкам або старшым настаўнікам. Школа працавала ў духу новых педагагічных ідэй. Вучыўся ён па «Роднаму слову» Ушынскага, кнізе, якую лічыў «жамчужынай педагагічнай навукі, адзінай і нікім не пераўзыдзенай».

Аднак бацька хутка страціў работу, і сям'я вярнулася ў бабіну хату.

Вясной 1876 года Багдановічы зноў пераязджаюць у Менск. На гэты раз бацька і маці вырашылі, што сын павінен стаць рамеснікам. Пацягнуліся доўгія месяцы катаржнай вывучкі ў розных майстроў, калі ён удосталь паспытаў долі «папіхача» — выконваў самую брудную і чорную работу. Грошай яму не плацілі, але затое моцна білі і здзекаваліся. Ён рваў абутак, адзенне, а дома так чакалі яго заробкаў. Па чарзе вучыўся ў паравозным дэпо на машыніста, затым на слесара, токара, кандытара. Апошняй прафесіяй авалодаў нядрэнна. Пасля цяжкай вучобы стаў чалавекам, які сам мог задаволіць свае патрэбы.

На шырокае поле грамадскай і навуковай дзейнасці вывелі Адама Багдановіча кнігі. У гэты самы невыносны для сябе час ён займаўся самаадукацыяй. Вось пералік аўтараў кніг, якія ён прачытаў, калі вучыўся ў майстэрнях: Міцкевіч, Сыракомля, Дзікенс, Сервантэс, Свіфт, Дэфо, Дзюма, Купер, а з рускай класікі — Пушкін, Гогаль, Тургенеў, Талстой, Грыгор'еў. Марыў прачытаць Шэкспіра, Шылера, Гётэ і Дантэ, але іх у бібліятэках не знайшоў. З цяжкасцю, не разумеючы сэнсу, адольваў Бялінскага і Дабралюбава. Паступова ў юнака выспеў намер вучыцца далей. І гэта пасля таго, як стаў ужо майстрам-кандытарам і яго будучыня была забяспечана. Цёмнай ноччу, патаемна ад усіх, Адам Багдановіч уцякае ад гаспадара-кандытара.

Увосень 1879 года паступае ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. У сваіх успамінах пра дарэвалюцыйнае мінулае Беларусі ён падрабязна апісвае Нясвіж і сваю вучобу ў сценах былой езуіцкай калегіі і манастыра, закрытых царскімі ўладамі пасля паўстання 1863 года.

У семінарыі Адам Багдановіч працягвае займацца самаадукацыяй: яго ўсур'ёз захапілі ідэі рускіх сацыял-дэмакратаў і тэорыя сацыялізму. Ён ствараe гурток па вывучэнні палітычнай літаратуры. Чыталі ў ім Лаўрова (Міртава) «Гістарычныя пісьмы», Ласаля «Аб сутнасці канстытуцыі», Міля «Палітычную эканомію», Шэфэле «Аб сутнасці сацыялізму» і інш. Яшчэ ў семінарыі А. Багдановіч знаёміцца з вучнем Менскай духоўнай семінарыі А. Хлябцэвічам, які яго «звёў» з менскімі народавольцамі. Справе партыі «Народная Воля» Багдановіч аддаў пяць гадоў жыцця. Быў спярша радавым сябрам партыі, затым адным з яе кіраўнікоў.

Пасля заканчэння Нясвіжскай семінарыі А. Багдановіч акунуўся ў вір грамадскага жыцця. Працуе настаўнікам, займаецца зборам і друкаваннем фальклорных матэрыялаў, вядзе рэвалюцыйную прапаганду сярод настаўнікаў і вайскоўцаў. Сваю асветную і навуковую дзейнасць Адам Багдановіч аднак падпарадкоўвае палітычнай: лічыць, што яго найпершая задача дамагацца звяржэння самаўладства. У гэты час у патаемным месцы ён захоўвае літаратуру, якую выкарыстоўвае ў прапагандысцкіх гуртках: «Капітал» Маркса, замежныя выданні групы «Вызваленне працы», творы Ласаля, нумары «Народнай Волі» і нават падпольнае выданне беларускага часопіса «Гоман» (1884), у якім ставілася пытанне нацыянальнай аўтаноміі Беларусі і адраджэння дзяржаўнасці народа.

Палітычная дзейнасць А. Багдановіча праходзіла ў атмасферы вышуку, вобыскаў, арыштаў, што падарвала здароўе, і малады настаўнік захварэў на сухоты.

*(Працяг будзе).*




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Пачатак росквіту еўрапейскай нецаркоўнай лірычнай паэзіі ў эпоху Сярэднявечча можна звязваць з творчасцю *трубадураў* (у Правансе) і *трувэраў* (у Цэнтральнай Францыі), якая дасканала выкарыстоўвала здабыткі антычнай, а ў пэўнай ступені і сярэднявечнай арабскай лірыкі, а таксама мясцовага фальклору. Ніжэй змяшчаюцца вершы трубадура Пэйрэ Відаля (каля 1175—1215) і трувэра Бландэля дэ Нэсля (XII стагоддзе, дакладныя гады жыцця невядомыя).

Пэйрэ ВІДАЛЬ

## КАНСОНА

Поўнымі грудзьмі ўдыхаю
Правансальскі ветрык мілы,
Радасці прыліў і сілы
Незвычайнай адчуваю.
Я хацеў бы зноў і зноў
Шмат прыгожых, добрых слоў
Чуць пра край свой родны.

З двух бакоў абшары краю
Рона з Вэнсай затуліла,
З поўдня мора падступіла
І Дзюрэнс; я далятаю
Думкай да яго лугоў —
І надоўга знік, сышоў
Мой настрой маркотны.

Я і дня не пражываю,
Каб мяне не захапіла,
Каб душу не запаліла
Згадка пра яе; ўсхваляю
Донну, і палае кроў:
Прыгажэйшую знайшоў
Хто б сярод смяротных?

Таямніцы не хаваю:
То яна мяне натхніла,
Тыя песні акрыліла,
Што цяпер я вам спяваю.
Лепшых не знайсці дароў
За яе пагляд, любоў —
Гэтым жыць я згодны.

Пераклад з правансальскай
Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.

БЛАНДЭЛЬ ДЭ НЭСЛЬ

* * *

З прыходам вясны
Гэтак сэрца пяе:
Збыліся яны —
Мроі-думкі мае.
Я так бы не змог
Пяяць сэрцам сваім,
Каб мне не даў Бог
Столькі радасці ў ім!

Каханкам любоў
Шчасце-ўцеху дае,
Найлепшых дароў
Справядлівым стае,
Шляхетнасць манер —
Скарб каштоўны ў людзях:
Трэба йсці ўсім цяпер
Па трох гэтых шляхах.

Пераклад з старафранцузскай
Лявона
БАРШЧЭЎСКАГА.

. *Проза*

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—10)*

Гары КЕМЕЛМАН

# З. ВЕРАГОДНАСЦЬ ПРОЙГРЫШУ

— Але ў гэтую сераду было крыху інакш,— сказаў Эдвардс.— Нейкая работа затрымала Ольбрэхта ў лабараторыі, і потым ён адзін пайшоў да Макнальцы. Ва ўсякім разе, тым вечарам яны гулялі ў шахматы. Вы памятаеце, як стаіць мэбля ў хатнім кабінеце Макнальцы? Вось, зірніце яшчэ раз.— Палкоўнік адкрыў свой партфель і выняў адтуль фотаздымак кабінета забітага прафесара: пакой скрозь устаўлены кнігамі, з праёмам у выглядзе аркі — выхадам у калідор; амаль пасярэдзіне, направа ад аркі,— шахматны столік. Здымак быў зроблены з узроўню століка, і выразна былі відаць шахматная дошка і фігуры — збітыя чорныя і белыя ляжалі ўперамешку па адзін бок дошкі.

Эдвардс паказаў на крэсла, што стаяла ля століка

— Тут сядзеў Ольбрэхт — тварам да аркі, што вядзе ў калідор. Прыхожая і парадны ўваход — па калідоры налева гэта значыць, улева ад таго месца, дзе сядзеў Ольбрэхт. Як ён расказвае, у самы разгар гульні Макнальцы пайшоў адчыняць дзверы. Раптам Ольбрэхт пачуў пісталетны стрэл — гэта ён потым зразумеў, а спачатку зблытаў з гукам выхлапу глушыцеля праезджай машыны. І зразумела, бо факты гавораць, што дула пісталета было шчыльна прыціснута да грудзей Макнальцы. Гук стрэлу ў такіх выпадках, як вядома, прыглушаны, быццам страляюць у падушку. Як бы там ні было, Ольбрэхт пачакаў некалькі хвілін, а потым паклікаў гаспадара. Не пачуўшы адказу, ён пайшоў у прыхожую і знайшоў свайго друга мёртвым на падлозе ля самых дзвярэй з ранай у вобласці сэрца і цёплым яшчэ пісталетам у руцэ. І тады ён пазваніў у паліцыю. Ці не так расказваў Ольбрэхт? Можа, я што-небудзь выпусціў?

Я адмоўна патрос галавой, сілячыся здагадацца, куды гне палкоўнік.

Эдвардс задаволена ўсміхнуўся і зноў загаварыў:

— Зусім натуральна, што на падставе гэтага сведчання мы адхілілі версію самагубства. Мы дапусцілі, што яго застрэліў чалавек, які пазваніў. Падумаўшы, што Макнальцы быў дома адзін, ён усунуў зброю ў руку сваёй ахвяры, каб надаць забойству выгляд самагубства. Калі званок сапраўды звінеў, магло быць толькі забойства, а не самагубства. Таму што, калі нават той, хто званіў, быў проста нетутэйшы чалавек, які пытаўся, скажам, як прайсці на чыгуначную станцыю, пра самагубства не можа быць і гаворкі, бо ў такім разе яно павінна было адбыцца на яго вачах. Дзверы шкляныя, і нават калі б ён адразу збег адтуль, ён каму-небудзь расказаў бы, і нам стала б вядома. А яшчэ выходзіла б, што ўвесь час, пакуль Макнальцы гуляў з Ольбрэхтам у шахматы, ён хаваў у кішэні зараджаны «люгер». Выходзіла б, што...

— Добра,— перабіў я палкоўніка,— версія самагубства адпадае. Што ж вымусіла вас зноў да яе вярнуцца?

Эдвардс узлаваўся, што я перабіў яго, але адразу ж схамянуўся і авалодаў сабой.

— Дзвярны званок! — пераможна ўсклікнуў ён.— У расказе Ольбрэхта адна дэталь не зусім добра стасуецца да астатніх. Я папрасіў яго пераказаць гэты момант некалькі разоў, і, нарэшце, увагу маю прыкавала тое, што ён ніводнага разу не сказаў, што чуў, як звінеў званок, а толькі, што Макнальцы папрасіў у яго прабачэння і пайшоў да дзвярэй, сказаўшы, што нехта прыйшоў. Калі я адкрыта спытаўся ў яго, ці чуў ён званок, Ольбрэхт крыху сумеўся і, нарэшце, заявіў, што не чуў. Ён тлумачыць гэта тым, што цалкам аддаўся гульні, але я праверыў — званок у Макнальцы гучны, і, каб ён звінеў, Ольбрэхт абавязкова пачуў бы.— Эдвардс паціснуў плячамі.— Бясспрэчна адно: калі ля дзвярэй не было трэцяй асобы, версія самагубства зноў выплывае наверх.

Палкоўнік змоўк. Потым, крыху пачырванеўшы, канфідэнцыяльна сказаў:

— Я быў не зусім з вамі шчыры і вымусіў вас думаць, што я накіраваўся сюды толькі з мэтай расследавання прычын і акалічнасцей смерці Макнальцы. На самай справе я прыехаў яшчэ ранiцой таго дня і па тэлефоне дамовіўся з Макнальцы сустрэцца ў яго доме а палове дзевятай вечара. Ведаеце, навуковы праект, распрацоўкай якога займаліся Макнальцы з Ольбрэхтам, пасоўваўся наперад не вельмі паспяхова. Часта іх спасцігалі няўдачы. Выйшаў са строю тонкі апарат, на замену якога пайшло б некалькі тыдняў, а то і месяцаў. Справаздачы прысылаліся са спазненнем, у іх часта выяўляліся памылкі. Артылерыйскае ведамства, якое нясе адказнасць за праект, папрасіла нас праверыць іх работу, і мяне камандзіравалі сюды для папярэдняга расследавання. І вось цяпер, маючы на ўвазе верагоднасць самагубства, я спытаюся ў Ольбрэхта, ці можна дапусціць магчымасць сабатажу пры распрацоўцы праекта. І тут усё адкрылася. Ён прызнаўся, што апошні час пачаў падазраваць свайго друга і сёе-тое праверыў. Хоць Ольбрэхт амаль пераканаўся, што Макнальцы вінаваты, ён не адважыўся адкрыта сказаць яму гэта. Але час ад часу рабіў намёкі. У той дзень у часе гульні ў шахматы ён намякаў, што ведае, што задумаў Макнальцы. Як я зразумеў, ён вуаліраваў свае намёкі выразамі, прынятымі ў шахматыстаў. Сам я ў шахматы не гуляю, але ўяўляю сабе, што ён гаварыў нешта накшталт таго: «Гэты варыянт для вас вельмі небяспечны» — ну, што-небудзь падобнае. Праз нейкі час Макнальцы, напэўна, зразумеў і страшэнна ўстрывожыўся. Ольбрэхт расказвае, што Макнальцы пачаў мармытаць сабе пад нос: «Што ж мне рабіць?» Тады Ольбрэхт, зрабіўшы ход, прапанаваў яму: «Здавайцеся!» — што, як я разумею, на шахматнай мове азначае: «Прызнайце сваё паражэнне і канчайце».— Эдвардс склаў рукі так, нібы паднёс нам канчатковае рашэнне ў прыгожай упакоўцы: —І менавіта тады Макнальцы сказаў, што хтосьці прыйшоў, і падняўся з-за століка.

— Ольбрэхт сам бачыў, як ён застрэліўся? — спытаўся я.

— Не. Бачыў толькі, як Макнальцы пайшоў праз арку. Цяпер Ольбрэхт дадае адну падрабязнасць: замест таго, каб накіравацца налева, у прыхожую, Макнальцы збочыў управа, дзе ў яго спальня. Напэўна, пайшоў узяць пісталет. Потым вярнуўся і прайшоў міма аркі ў прыхожую.

— Чаму ж ён не пачакаў, пакуль ад яго пойдзе Ольбрэхт?

— Мяркую, таму, што ведаў: я хутка прыйду.

У мяне амаль не засталося ніякага сумнення, што Эдвардс знайшоў правільнае рашэнне. Але не хацелася прызнаваць гэтага. Больш ужо не засталося шанцаў пакласці Эдвардса на лапаткі. Мае думкі скіраваліся на Макнальцы. Ён не быў маім прыяцелем, але я не раз гуляў з ім у шахматы ва універсітэцкім клубе. Асабліва прыхільнасці я да яго не адчуваў, аднак мне неяк не хацелася верыць, што ён скончыў жыццё самагубствам, а значыць, сумленне ў яго нячыстае. Здаецца, мае пачуцці і сумненні адбіліся на маім твары, хоць я і спрабаваў іх схаваць.

— І гэта ваша канчатковая версія? — нарэшце спытаўся я пагардліва.— Дык жа першакурснік юрыдычнага факультэта разаб'е яе ўшчэнт! У ёй больш дзірак, чым у рэшаце!

Твар палкоўніка зрабіўся барвовым: яго ашаламіў мой ваяўнічы тон.

— Напрыклад? — прамовіў ён.

— Напрыклад, пісталет. Вы прасачылі, як ён трапіў да яго? А яшчэ: чаму Ольбрэхт спачатку гаварыў іншае? Чаму Макнальцы выбраў для самагубства прыхожую? Навошта чалавеку, у доме якога мноства пакояў, страляцца менавіта ў прыхожай?

— Ольбрэхт адразу не ўсё сказаў, таму што Макнальцы быў яго другам,— адпарыраваў Эдвардс.— Макнальцы больш ужо не мог уплываць на ход распрацоўкі праекта, навошта ж Ольбрэхту расказваць, што гэта было самагубства, і дыскрэдытаваць Макнальцы? Акрамя таго, ён, відаць, адчувае сябе крыху вінаватым у смерці прафесара. Памятаеце, прапанаваў яму здацца? Думаю, Ольбрэхт вельмі засмуціўся, калі друг яго пакончыў з сабой.

— А пісталет?

Эдвардс паціснуў плячамі:

— Вы ж самі зазначылі, што гэта ваенны трафей. У краіне поўна іх, і вельмі нямногія зарэгістраваны. Хто-небудзь з былых яго студэнтаў мог падараваць яму. Дарэчы, Ольбрэхт прызнаў, што некалькі месяцаў назад Макнальцы нешта такое яму гаварыў. Не, пісталет мяне не турбуе. А вось прыхожая сапраўды крыху бянтэжыла, пакуль я не агледзеў уважліва дом. Пасля смерці жонкі (яна памерла некалькі гадоў назад) Макнальцы зачыніў верхні паверх дома і частку ніжняга. Таму, хаця ў доме шэсць пакояў, ён жыў фактычна ў маленькай кватэрцы на першым паверсе, што складалася з кабінета, дзе раней была сталовая, спальні і кухні. У кабінеце ён застрэліцца не мог — там сядзеў Ольбрэхт, які перашкодзіў бы яму. Кухня — сумежная з кабінетам, і, я думаю, Макнальцы не хацеў зноў паказвацца Ольбрэхту. А вось спальня магла быць самым зручным месцам, каб не адна дэталь: там вісіць вялікі партрэт яго жонкі. Партрэт намаляваны анфас. Вось мне і прыйшло ў галаву, што іменна гэта ўтрымала яго ад самагубства ў спальні — пад упартым позіркам нябожчыцы-жонкі. Відома, гэта толькі дапушчэнне,— дадаў Эдвардс з самазадаволенай ухмылкай.

— Версія даволі слушная,— пагадзіўся я нехаця,— але толькі версія. У вас няма доказаў самагубства.

— Праўду кажучы — ёсць,— прамовіў ён няспешна, і каварная ўсмешка зайграла ў кутках яго рота.— У мяне ёсць доказы, якія падмацоўваюць маю версію, надзейныя доказы. Мы, ваенныя, людзі скрупулёзныя, а некаторыя з нас маюць сякі-такі вопыт. Ведаеце, я зрабіў парафінавую пробу на трупе Макнальцы — вынікі станоўчыя.

Я павінен быў загадзя ведаць, што палкоўнік увесь час трымае ў рукаве галоўны козыр. Гэты раз я нават не паспрабаваў схаваць сваё расчараванне. Плечы мае апусціліся, і я паволі паківаў галавой у знак згоды.

— А што такое парафінавая проба? — раптам падаў голас Нікі Уэлт, які ўвесь час моўчкі слухаў.

— Яна іграе рашаючую ролю, прафесар,— адказаў я.— Не ўпэўнены, што дакладна ведаю яе хімічную механіку, але... Разумееце, Нікі, кожная агнястрэльная зброя (няважна, як шчыльна закрываецца яе затвор) выкідвае пры стрэле пэўную колькасць зараду ў адваротным напрамку. Частка пораху адлятае назад і ўразаецца ў руку таго, хто страляў. Пры расследаванні падобных выпадкаў руку абмазваюць расплаўленым парафінам, а потым, калі ён застыне, сцягваюць, як пальчатку. Далей робіцца аналіз адносна наяўнасці слядоў пораху — нітратаў, і, калі рэакцыя станоўчая, значыць, той чалавек страляў. Здаецца, на гэтым справа Макнальцы завершана.

— Значыць, галоўнае слова належыць аракулу з прабіркі? іранічна спытаўся прафесар.

*(Працяг будзе).*

